# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 2 (61) Люты 2012 г. (спэцыяльны выпуск)


**24 лютага ў Першамайскім райсудзе Віцебску скончыўся працэс над сябрам КХП-БНФ Сяргеем Каваленкам. Судзьдзя Алена Жук прызнала яго вінаватым і пакарала зьняволеньнем у калёніі агульнага рэжыму тэрмінам 2 гады і 1 месяц. У апошнія два дні суд праходзіў, па сутнасьці, у закрытым рэжыме: судовую залю напоўнілі пераапранутымі ў цывільнае супрацоўнікамі органаў і іх жонкамі, і не пусьцілі нікога са сваякоў, блізкіх і знаёмых палітвязьня і журналістаў недзяржаўных мэдыяў.**

*Ганна Соўсь*, **Радыё Свабода**

## Віцебскі пакутнік

Я пад моцным уражаньнем ад першага дня суду над Сяргеем Каваленкам. Пачуцьці зьмешаныя.

ПАКУТНІК. Фота аголенага зьнясіленага Каваленкі выклікала асацыяцыю з клясычным творам Тыцыяна «Сьвяты Сэбастыян». Пераглядзела іншыя ўвасабленьні Сьвятога Сэбастыяна ад розных майстроў і пры зьнешнім падабенстве адну розьніцу адзначыла. Клясычныя пакутнікі глядзець у вышыню, зьвяртаюцца да Бога. Каваленка ці апускае галаву ці глядзіць на людзей. Што і лягічна — якое неба, які Бог у клетцы ў судовай залі. Але пачуцьцё пакутніцтва ад гэтага не зьмяншаецца.



РЭЖЫСЭР. Каваленка сам вядзе судовы працэс. Дзякуючы ягоным учынкам за першы дзень суду амаль не адбылося працэсуальных дзеяньняў. Фактычна Каваленку зь нежаданьнем падпарадкоўваюцца і маладыя судзьдзя і пракурор, і міліцыянты. Інтэлігентны Алесь Бяляцкі на судзе сам перакладаў хаду працэсу. Як у «Жоўным пясочку» Быкава вязьні самі штурхалі машыну, якая павязе іх на сьмерць. Будаўнік Каваленка, які сам за кратамі гаворыць збольшага па-расейску, робіць заўвагі перакладчыцы, школьнай настаўніцы беларускай мовы, і дамагаецца яе адводу і зьмены перакладчыка. Пасьпявае, як мне падалося, на пачатку паседжаньня, даць інструкцыі жонцы, і ягоная сям'я няспынна выклікае «хуткую дапамогу», патрабуючы шпіталізацыі палітвязьня. Працэс зацягваецца і становіцца ўсё больш з аднаго боку абсурдным, а з другога — драматычным.

БУДУЧАЯ АХВЯРА ПРАПАГАНДЫ. Рэзкія, экзальтаваныя паводзіны палітвязьня, напэўна, могуць скарыстаць афіцыйныя ідэолягі. Хочаце сьцягу? Хочаце беларускай мовы? Глядзіце, вось такія прыйдуць і навядуць свае парадкі.

НЕ ПАЛІТЫК. Каваленка — просты будаўнік зь Віцебску. Ён мае ідэю. Ён апантаны. Ён прагне экстрыму. Ён моцны. Ён любіць Беларусь і бел-чырвона-белы сьцяг. Ён вывешвае сьцягі. Ён лічыць гэта сваім пакліканьнем. Ён ня ўмее казаць прыгожых словаў, ня ведае, што такое дыпляматыя. Гэта ягоная сіла і ягоная слабасьць. Турэмнае пакараньне, якое яму пагражае, абсурднае. І ён змагаецца. Адзін. Як можа. Як умее.

ПРОСТА ГЕРОЙ, скажа нехта. БЛАЗАН, адкажа другі. Сяргей Каваленка — палітвязень сучаснай Беларусі. У ім сканцэнтравана ўсё цяперашняе беларускае — боль, адчай, тупік, агрэсія, супраціў, нянавісьць і надзея.Надзея, што ён выйдзе з турмы.

## Алесь Бяляцкі: У такі паганы час самае месца праваабаронцы – у турме

Палітвязень Павал Севярынец атрымаў з Жодзіна ліст ад Алеся Бяляцкага, датаваны 24 студзеня. У лісьце Алесь піша, што яго рыхтуюць да этапу, які, напэўна, адбудзецца ў самыя маразы. Піша, што болей за ўсё не хапае сьвежага паветра. Настрой у яго такі, што “хочацца мысьліць і сузіраць”. Тон ліста бадзёры і спакойны. Напрыканцы Алесь Бяляцкі перадае прывітаньне Тацьцяне Севярынец. “На свабодзе зараз поўны штыль, і таму ў такі паганы час самае месца праваабаронцы — у турме”, - адзначае кіраўнік праваабарончага цэнтру “Вясна”.

28 лютага стала вядома, што Алеся Бяляцкага павезьлі этапам з «Валадаркі» ў Бабруйскую калёнію. Этапу ў турму ён чакаў 11 дзён — ад 17 лютага. Менавіта ў гэты дзень яго павезьлі на “Валадарку” з жодзінскага СІЗА.



24 студзеня Менгарсуд разгледзеў касацыйную скаргу кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна», віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага, асуджанага на 4,5 года турмы. Прысуд Бяляцкаму пакінулі бязь зьмены.

Алесь Бяляцкі быў асуджаны ў лістападзе летась. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на свае рахункі, выдаткоўваў на праваабарончую дзейнасьць.

**Адрас, на які можна пісаць палітвязьню:**

**Алесь Бяляцкі**
**ПК №2**
**вул. Сікорскага, 1**
**г. Бабруйск**
**213800, Магілёўская вобл.**

## Зьміцер Дашкевіч зноў зьмешчаны ў ШЫЗА



21 лютага адбылася чарговая сустрэча Дашкевіча з адвакатам. Як паведаміла Наста Палажанка, Дашкевіча паўторна зьмясцілі ў ШЫЗА на 10 сутак — гэта максымальны тэрмін. Сустрэча праходзіла пад пільным кантролем супрацоўнікаў калёніі, таму падабаронны ня мог канфідэнцыйна абмеркаваць з адвакатам пытаньні юрыдычнага характару.

Адзін з фактаў, які пасьпеў паведаміць палітвязень, што ў ШЫЗА ён ня можа чытаць Біблію. Нягледзячы на яго неаднаразовыя просьбы, адміністрацыя калёніі адмаўляецца перадаваць Дашкевічу Біблію. Мінулага разу адвакатка сустракалася са Зьмітром Дашкевічам у пятніцу 17 лютага, калі ён таксама быў у ШЫЗА. Туды ён трапіў за адмову ўваходзіць у камэру да так званага “апушчанага”, што аўтаматычна, паводле зэкаўскіх правілаў, перавяло б яго ў аналягічны статус.

# У сувязі з заявамі пра ціск на Саньнікава Камісіі па пытаньнях памілаваньня можа спатрэбіцца «пэўны час»

Дакумэнты з калёніі «Віцьба-3», дзе адбывае пакараньне экс-кандыдат у прэзыдэнты Андрэй Саньнікаў, паступілі на разгляд Камісіі па пытаньнях памілаваньня пры прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь толькі 13 лютага - у гэты дзень яны былі афіцыйна зарэгістраваныя ў канцылярыі Адміністрацыі прэзыдэнта. Пра гэта паведаміў намесьнік старшыні камісіі, начальнік аддзелу па грамадзянстве і памілаваньні Адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Кісялёў. Дакумэнты па даверанай асобе Саньнікава - Зьмітра Бандарэнкі таксама паступілі ў камісію. Гэта адбылося 14 лютага. Ён напісаў прашэньне аб памілаваньні 1 лютага.

Мяркуецца, пытаньне аб памілаваньні Саньнікава і Бандарэнкі будзе разглядацца на наступным паседжаньні Камісіі па пытаньнях памілаваньня. Аднак, калі менавіта гэта адбудзецца, сказаць складана. У адпаведнасьці з указам № 250 ад 3 сьнежня 1994 году, які вызначае парадак разгляду пытаньняў аб памілаваньні, камісія павінна зьбірацца не радзей за раз на квартал. На практыцы гэта адбываецца значна часьцей. Так, летась камісія зьбіралася 10 разоў, а апошняе паседжаньне прайшло ў сьнежні 2011 году.

Паводле слоў А. Кісялёва, прашэньні аб памілаваньні на разгляд камісіі паступаюць рэгулярна, і адначасова на стадыі разгляду можа знаходзіцца і 30, і 40, і 50 хадайніцтваў ад асоб, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўленьня волі. Апроч таго, ёсьць звароты і ад людзей, якія ў дасудовым парадку хадайнічаюць аб вызваленьні ад крымінальнай адказнасьці. Аддзел па грамадзянстве і памілаваньні Адміністрацыі прэзыдэнта выконвае «арганізацыйна-тэхнічную працу»: забясьпечвае правільнасьць, паўнату, аб'ектыўнасць дакумэнтаў.

Што тычыцца Андрэя Саньнікава, дык у цяперашні момант «ідзе збор дакумэнтаў наконт яго справы», «але ў сувязі з тым, што ў СМІ зьявілася шмат інфармацыі пра тое, што на Саньнікава нібыта аказваўся ціск, прагучала шмат гучных заяваў (нават ад такіх вядомых у мінулым дзеячаў, як Зянон Пазьняк), камісія, натуральна, павінна старанна і глыбока вывучыць усе акалічнасьці; для гэтага, безумоўна, патрабуецца пэўны час», - дадаў ён.

У адпаведнасьці з указам № 250, дакумэнты, што паступілі, накіроўваюцца генэральнаму пракурору і старшыні Вярхоўнага суду, якія цягам месяца павінны даць сваё заключэньне па гэтым пытаньні. Пасьля таго, як атрыманыя заключэньні з Генпракуратуры і Вярхоўнага суду, усе дакумэнты накіроўваюцца на разгляд чальцоў камісіі. «Камісія прымае рашэньне пасьля таго, калі кожны сябра камісіі, якому рассылаецца ўсё неабходнае на кожнага чалавека для вывучэньня, прыходзіць ужо з усьведамленьнем сытуацыі па кожным чалавеку для таго, каб галасаваць», - тлумачыць А. Кісялёў. Рашэньне прымаецца на паседжаньні праз адкрытае галасаваньне. Затым яно паступае кіраўніку дзяржавы разам з пакетам дакумэнтаў. Рашэньне аб памілаваньні прымае прэзыдэнт.



Разам з тым, растлумачыў А. Кісялёў, бываюць выпадкі, калі ў ходзе паседжаньня ўзьнікае дыскусія, і камісія прымае рашэньне вярнуцца да разгляду пытаньня на наступным паседжаньні. «Вызначанага тэрміну для разгляду канкрэтнага матэрыялу ня можа быць, бо гаворка ідзе пра аб'ектыўнасьць ацэнкі. Часам камісія мае права перанесьці разгляд пытаньня на наступнае паседжаньне, калі трэба запытаць нейкія дадатковыя дакумэнты і да т.п. Тут недапушчальны нейкі фармальны падыход», - кажа А. Кісялёў. Пры гэтым ён падкрэсьліў, што «камісія працуе вельмі інтэнсыўна».

Склад Камісіі па пытаньнях памілаваньня можа мяняцца. Апошні раз гэта адбывалася ў 2009 годзе. Сёньня чальцамі гэтай камісіі зьяўляюцца намесьнік кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Валер Міцкевіч (старшыня), загадчык аддзелу па пытаньнях грамадзянства і памілаваньня Адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Кісялёў, старшыня Пастаяннай камісіі Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Яўген Сьмірноў, намесьнік дырэктара Інстытуту перападрыхтоўкі і павышэньня кваліфікацыі судзьдзяў, работнікаў пракуратуры, судоў і ўстаноў юстыцыі БДУ Аляксандар Баркоў, судзьдзя Канстытуцыйнага суду Леанід Рабцаў, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўстве і судова-прававых пытаньнях Мікалай Самасейка, галоўны навуковы супрацоўнік лябараторыі мадуляцыі функцыяў арганізму Інстытуту фізыялёгіі НАН Беларусі Ўладзімер Улашчык, а таксама старшыня Рэспубліканскай калегіі адвакатаў Віктар Чайчыц. Апроч таго, у склад Камісіі ўваходзяць таксама старшыня Вярхоўнага суду, генэральны пракурор, старшыня Сьледчага камітэту, міністар унутраных спраў, міністар юстыцыі і старшыня Камітэту дзяржаўнай бясьпекі.

Нагадаем, што 24 з удзельнікаў падзеяў 19 сьнежня 2010 году ў Менску былі памілаваныя ўказамі прэзыдэнта ў жніўні і верасьні 2011 году: некаторыя на падставе прашэньняў аб памілаваньні, другія - без адпаведнай просьбы.

# Ігар Аліневіч у калёніі пазбаўлены магчымасьці кантактаваць са зьнешнім сьветам



За ўвесь час знаходжаньня ў Наваполацкай калёніі палітвязень Ігар Аліневіч патэлефанаваў сваім родным толькі адзін раз. Пра гэта паведаміла маці зьняволенага анархіста Валянціна Аліневіч. “Гэта мяне як маці, вядома, вельмі турбуе, бо ў іншых калёніях зьняволеныя маюць магчымасьць тэлефанаваць родным у найгоршым выпадку два разы на месяц, а ў найлепшым — штотыдзень", — кажа Валянціна Аліневіч.

**“Адміністрацыя тлумачыць гэта тым, што ня ўсе калёніі абсталяваныя тэлефонамі належным чынам і г.д. Але я бачу ў гэтым магчымасьць псыхалягічнага ціску. Я лічу, што ўтойваньне інфармацыі пра стан здароўя майго сына і навогул утойваньне інфармацыі аб ім − гэта своеасаблівае катаваньне для яго родных і для яго самога".**

27 траўня мінулага году Ігар Аліневіч быў асуджаны да васьмі гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Праваабаронцы прызналі Аліневіча і ягоных паплечнікаў Мікалая Дзядка і Аляксандра Францкевіча палітычнымі зьняволенымі і патрабуюць іх неадкладнага вызваленьня.

## *Павал Севярынец ізноў адмовіўся напісаць прашэньне аб памілаваньні*



«На складзе, дзе я працую, усё ж цяплей, а яшчэ ў нашай будачцы ёсьць пячурка, і мы там можам пагрэцца», — паведаміў «хімік» Павал Севярынец, які адбывае пакараньне ў Пружанскім раёне. А вось ў інтэрнаце, дзе жывуць «хімікі», топяць недастаткова і апошнімі начамі Паўлу даводзіцца спаць апранутым. З апошніх навін палітвязень паведаміў таксама пра новую спробу ўгаварыць яго напісаць прашэньне аб памілаваньні.

«Яшчэ раз мне намякнулі, што можна напісаць прашэньне. Кажуць, вы ж пра Саньнікава чыталі, вы ж разумееце, калі вам ужо надакучыла, то... Я адказаў, што ў мяне нічога на гэты конт не зьмянілася. І адчапіліся. Карацей, размова такая была, але хутчэй за ўсё, як той казаў, паводле абавязку».

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта «Віцебская Вясна» і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.